# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 23 (1673) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 5 ЧЭРВЕНЯ 1988 г. ЦАНА 20 зл.


*АЛЕСЬ БАРСКІ*

## ГОРКАЯ СЛОДЫЧ

1

Іскрына болю — цэнная,
Таксама, як іскрына шчасця.
Яе удзел у творчасці
Трывалы і вялікі.
У свеце стрэсаў і напасцяў,
Трывог шматлікіх і бязлікіх
Яна — фундамент быцця
людскога.
А для мяне яна:
З сябе і у сабе — дарога.

2

Мне хочацца сказаць:
Даруй!
Усе прэтэнзіі, ўсе закіды —
Назад бяру.
Як часта крыўды горкія —
Ў істоце нашы дзеці —
Прыпісваем другім,
Гаворачы:
Вы іх бацькі і годзе
Тады, калі фактычна мы
Пусцілі іх па свеце.
Наш штодзень ёсць
Фальшывасці рээстрам.
Не мы, а толькі лес —
Гармоніі аркестрам.

3

Хай будзе цяжка мне,
Хай будзе мне трывожна.
Ісці прыйшлося мне
Па сцежках неспакою.
Без хлеба можна жыць,
А без цябе не можна,
Як нельга жыць

(Працяг на стар. 4)



Мікола Давідзюк. Анфа — профіль, 1982 г.
Мал. Міколы Давідзюка.

## ТАІСА КАЦЭЙКА, НАСТАЎНІЦА І ДЗЕЯЧ

**Таіса Кацэйка** сваім жыццём, працай і грамадскай дзейнасцю заваявала давер у жыхароў Орлі і ўсяго арлянскага наваколля. Тры разы падрад выбіралі яе раднай Ваяводскай рады народовай у Беластоку. Маючы на ўвазе той факт, што 19 чэрвеня зноў адбудуцца выбары, рашылі мы сёння наладзіць сустрэчу раднай Таісы Кацэйка з чытачамі нашага штотыднёвіка.

— Пані Таіса, перш за ўсё вы, аднак, настаўніца. Ці быў гэта свядомы выбар прафесіі?

— Але ж так! — горача сцвярджае яна. — Я да сёння не ўяўляю сябе ў іншай ролі і не думаю, што змагла б я рабіць у жыцці нешта іншае. Можа, гэта таму, што частку бацькоўскага дома ў маіх родных Лужанах займала чатырохкласная пачатковая школа і я магу лічыць сябе яе вучаніцай ад першых дзён жыцця. Дарэчы, настаўніца з гэтай вясковай школкі, якая была на кватэры ў маіх бацькоў, згадзілася быць маёй хроснай мамай. Магчыма, таму атрымала я такое рэдкае імя — **Таіса.**

Пасля чацвертага класа лужанскай школы, прадоўжыла я вучобу ў Крушынянах, а затым без ніякіх хістанняў паступіла ў Беластоцкі педагагічны ліцэй. Ужо з дыпломам настаўніцы накіравалі мяне ў вёску Мора...

— ...на радзіму Віктара Шведа...

— Так, гэта вялікая вёска, недалёка ад Орлі, поўнасцю заселеная беларусамі. Пасля, на два гады, перавялі мяне ў суседнія Рэдуты, каб ужо цалкам закараніцца ў Орлі. У міжчасе абзавялася я сям'ёй і здабыла дыплом магістра, закончыўшы факультэт польскай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Дык вучу дзяцей польскай мове. Колькі гадоў, колькі выпускнікоў, колькі твараў! Ужо і так здарылася ў маім прафесіянальным жыцці, што даўнейшая мая вучаніца аказалася маім непасрэдным шэфам, дырэктарам школы ў Орлі. Да ліку маіх выхаванкаў, якімі я асабліва ганаруся, прыналежыць таксама і магістр **Ян Добаш** — дырэктар пачатковай школы ў Пашкоўшчыне, які ад новага школьнага года будзе маім шэфам у Орлі. Такія ёсць прымеркі. Родам ён з Крываціч. І так здарылася ў маім жыцці, што з яго сям'ёй зжылася я, як з родным домам. Янку Добаша лічу я ў нейкім сэнсе сваім духоўным сынам. А якая маці не цешыцца, калі яе

(Працяг на стар. 3)




Дык гэта літаратурнай групе „Белавежа" ўжо ажно трыццаць гадоў?! Уф-ф!.. Проста не верыцца, што так хутка і так многа часу мінула ад таго першага з'езда 8 чэрвеня 1958 года, калі ў Беластоку сабраліся любіцелі і пачынальнікі прыгожага пісьменства, каб арганізацыйна аб'яднацца ды напачатак афіцыяльна-адміністрацыйна заявіць аб сваёй прысутнасці ў культурным і грамадскім жыцці Беласточчыны.

Як сёння помню тую тадышнюю ўрачыстую атмасферу, што спавіла, як мне здавалася, нейкай спакуслівай таямніцай не толькі мураваныя, шматпавярховыя будынкі, што простымі вуліцамі перлі напралом праз спарахнелы стары горад, але і ўсе закуткі канферэнцыйнай залы дома друку, дзе адбываўся з'езд. Зышлося-з'ехалася чалавек дваццаць. Сталы стаялі ў форме літары П. Ніхто яшчэ не адважыўся сесці. Адны другім пачціва кланяліся, паціскалі рукі, негалосна пры тым штосьці маўляючы. Я быў па-вучнёўску збянтэжаны, хоць недзе, амаль зверху душы, расцвітала кволая ружа ашчасліўленасці, што і мне вось, бельскаму ліцэісту,

## РЭЧАІСНАСЦЬ „БЕЛАВЕЖЫ", ПРАЎДА РЭЧАІСНАСЦІ

дазволілі пераступіць гэтыя высокія парогі храма мастацтва, дзе неўзабаве адбудзецца жрэцкі абрад прычашчэння. На сэрцы палягчэла, калі сярод прысутных я распазнаў галоўнага рэдактара „Нівы". Задоўга да таго ён адшукаў мяне, хоць я настойліва падпісваў свае пробы пяра мудрагелістымі псеўданімамі і затым з затоеным дыханнем і бессаромна чакаў весткі аб іх на старонках тыднёвіка. Потым ён яшчэ лістоўна запрасіў мяне наведаць рэдакцыю, каб пагаварыць аб маім апавяданні, якое хоча апублікаваць. Але цяпер галоўны рэдактар як бы не прыкмячаў таго аўтара куртатай „Бобікавай падзякі", яго акружаў вяночак дбайна апранутых таварышаў, якім ён штосьці жэстыкулюючы тлумачыў і тыя ветліваківалі яму галовамі.

Тады я не ведаў ні яго прозвішча, ні таго, што Георгі Валкавыцкі закончыў у Маскве прэстыжны Літаратурны інстытут імя М. Горкага. І я фактычна цягнуўся не да яго, а неўсвядомлена, як начны матыль, ляцеў на распалены ім звабны агеньчык „Нівы".

„Ніва"! „Ніва"!.. О, колькі ж, у палове пяцідзесятых гадоў, абудзіла яна ў нас, пятнаццаці-шаснаццацігадовых юнакоў і дзяўчат, шляхетных мысляў і пачуццяў пра свой народ і яго культуру. Навучэнцы беларускіх ліцэяў, мы амаль адзін да аднаго выпісвалі яе і чыталі

(Працяг на стар. 4)




## У САМАЛЁЦЕ (II)

Зразумела, што чалавек, які ляціць амаль дзевяць гадзін, мае многа часу на тое, каб паназіраць, паспаць, падумаць і тоесёе запісаць. Так было і са мною. Не ведаю, чым гэта растлумачыць, але заўсёды ў самалёце назойліва лезуць мне ў галаву думкі аб Бандарах. Асабліва, калі пачынаю драмаць, тады галава напаўняецца мройнасцю і аб зямлі, і аб жывёле, і аб пасевах, і аб грыбах, якія так моцна мною завалодалі ў верасні мінулага года. Многа думаў я і аб Беларускім музеі, аб тым як буду агітаваць амерыканскіх беларусаў у справе фінансавай дапамогі для прыярытэтнай пабудовы.

Трэба аднак сказаць, што доўга драмаць або спаць у самалёце не даводзіцца. Справа ў тым, што болей-меней адзін раз у гадзіну сцюардэсы вязуць праз калідор доўгага самалёта возік, густа застаўлены бутэлькамі і банкамі. У бутэльках гэтых — прынамсі пятнаццаць гатункаў каньякоў і водак, а ў банках — піва і разнародныя сокі. Пасажыры выбіраюць тое, што найбольш адпавядае іх паднябенням. Я быў у вельмі дрэннай сітуацыі, як ужо пісаў, прымаў лякарства, якое выключала ўсякі алкаголь. Вось таму, хаця і вельмі падабаліся мне бутэлькі з каньякамі, ніводнага разу не працягнуў рукі ў бок гэтага высакароднага напітку. Затое мой сябра быў пры добрым здароўі і таму не мусіў адносіцца да бутэлечак так нігілістычна, як я. Абмяжоўваючы сябе пры бутэлечках, не мусіў гэтага я рабіць пры банках з сокамі. Многа выпіў і апельсіннага, і лімоннага, і грэйпфрутавага.

Нельга не сказаць і таго, што ў самалёце вельмі смачна кормяць. Падалі нам вельмі смачнае снеданне і яшчэ смачнейшы абед. Спажывалі мы з Барташэвічам усе гэтыя дары і моцна хвалілі LOT. Калі аднак узяць пад увагу, што білет у Амерыку каштуе больш чым дзвесце пяцьдзесят долараў і сто тысяч злотых, дык нічога дзіўнага, што LOT не шкадуе ні пітва, ні ежы.

Зрэшты, трэба сказаць, што не ўсе плацяць так многа. Калі я ўжо быў у Амерыцы, прыляцела туды жонка аднаго з нашых дзеячоў. У сувязі з тым, што ў гэты час мелі падаражэць білеты на самалёты, я спытаў яе, колькі яна заплаціла за білет.

А яна мне на гэта:

— Дзесяць тысяч злотых і трыццаць долараў!

Я падумаў, што дрэнна пачуў, і спытаў яе яшчэ раз. Другі раз пачуў такі ж адказ. Высветлілася, што яе дачка працуе сцюардэсай і ў сувязі з гэтым маці плаціць толькі дзесяць працэнтаў звычайнай цаны білетаў.

Вяртаючыся да самалёта, хачу сказаць, што пасля праезду пятага ці шостага возіка з напіткамі, некаторыя пасажыры выразна павесялелі, мабыць, прынамсі на пэўны час забылі аб аграмадных грошах, якія выдалі на білеты.

Яшчэ раз праявіў вялікую актыўнасць дурыла, які зноў паспрабаваў здабыць сэрца ўжо ўспомненай мною пані. Аднак пані сказала, што звернецца за дапамогай да сцюардэс, калі ён не адчэпіцца ад яе. Салонны леў канчаткова абмяк і спакойненька расселся ў сваім уласным крэсле.

Калі ўрэшце аб'явілі па радыё, што набліжаемся да Нью-Йорка і што трэба зашпіліць рамні, па сутнасці ў сэрцах усіх пасялілася трывога. Кожны думаў аб адным: ці шчаслівa самалёт прызямліцца. Паплыло пад крыламі мора нізкіх чырвоных домікаў. З часам усё выразней было відаць асобныя машыны. але і чалавечыя постаці. Урэшце колы самалёта ўдарылі аб бетон — і аграмадны самалёт пакаціўся па бетоне.

Такім чынам закончылася амаль дзевяцігадзіннае прабыванне ў паветры і, што там гаварыць, кожны цешыўся, што яго ногі ўрэшце стануць на зямлі. Трэба было, аднак, яшчэ крыху пасядзець у самалёце. Спецыфіка аэрапорта імя Кенедзі ў Нью-Йорку заключаецца ў тым, што пасажыры не выходзяць з самалёта на зямлю і не едуць у будынак аэрапорта аўтобусам, а праз аграмадны „рукаў", які падстаўляецца непасрэдна да дзвярэй самалёта, ідуць у будынак, дзе чакаюць іх чыноўнікі ад пашпартоў і віз.

Вось мы, пакінуўшы „D-48", пайшлі насустрач выспецыялізаваным амерыканскім пагранічным і таможным службам.

**Алесь Барскі**

## КАНФЕРЭНЦЫЯ Ў ЧЫЖАХ

На справаздачна-выбарнай канферэнцыі ў Чыжах, якая адбылася 6 мая 1988 г., даклад і дыскусія дэлегатаў закранулі пытанні працы гурткоў БГКТ на вёсках, разбудовы арганізацыі, павелічэння яе аўтарытэту, развіцця мастацкай самадзейнасці і арганізавання аддзелам цікавых мерапрыемстваў. Некаторыя прамоўцы крытычна выказаліся адносна музычнага афармлення беларускіх радыёперадач з Беластока. Справа ў тым, што многія слухачы запісваюць на магнітафонную плёнку беларускія песні, а ў перадачах бесперапынна паўтараюць тыя ж самыя песні „Дубіноў". Людзі хочуць слухаць песні і другіх калектываў.

Намеснік старшыні ГП Кастусь Майсеня прысвяціў сваю прамову справам будовы Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы.

Дэлегаты канферэнцыі выбралі 16-асабовае праўленне, а яно — склад прэзідыума ў асобах: Галіна Мартынюк — старшыня, Ірына Раманюк — намеснік старшыні, Марыя Саеўская — сакратар, Раіса Давідзюк — скарбнік, Рыгор Мацкевіч, Валянціна Іванюк — члены.

Старшынёю трохасабовай рэвізійнай камісіі з'яўляецца Анна Вільчэўская.

На XI з'езд БГКТ паедуць: Галіна Мартынюк і Ірына Раманюк. (мх)

## ХРОНІКА

2 мая адбылося пасяджэнне прэзідыума праўлення гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку. Быў разгледжаны і прыняты план працы да канца бягучага года. Між іншым, адбудуцца два традыцыйныя ўжо мерапрыемствы: Купалле — з 24 на 25 чэрвеня і Дзень беларускай культуры — 26 чэрвеня ў беластоцкім амфітэатры.

15 мая харавы калектыў БГКТ з Беластока пад кіраўніцтвам Сцяпана Копы выступіў з канцэртамі ў Трасцяніцы, Рэпісках і Навасадах. (мх)

## НАРАЎЧАНСКАЯ ДЭМАГРАФІЯ

Зараз гміна Нараўка налічвае 5639 жыхароў, у тым ліку 2856 мужчын і 2783 жанчыны. Найбольшымі вёскамі з'яўляюцца: Нараўка (яна налічвае 769 чалавек), Семяноўка (702) і Старое Ляўкова (471).

Найстарэйшыя жыхары гміны: Ірына Кабаць, якой роўна 100 гадоў, з вёскі Мінькоўка (яна нарадзілася ў 1888 годзе), Фёдар Кічкайла з Альхоўкі (1891 г.), Еўдакія Шаршуновіч з Бярнацкага Мосту (1892 г.), Анастасія Клімюк з Плянты (1893 г.), Анна Банькоўская з Гарадзіска (1894 г.), Соф'я Скепка з Альхоўкі і Еўдакія Саевіч са Старога Ляўкова (абедзве яны нарадзіліся ў 1895 г.), Юлія Несцярук з Ахрымаў, Канстанцыя Кайдэвіч з Леснай і Анна Янушкевіч з Міклашэва (усе яны з 1896 г.) і Марта Пташынская з Ляшукоў (1897 г.). (яц)

## ЦЕСНА Ў ГАЙНАЎСКІХ ШКОЛАХ!

● На працягу 18 гадоў не пабудавалі ні аднае школы! ● У прадшколлях не хапіла месца для двухсот дзяцей ● Пабудуюць школу ў пасёлку „Мазуры" і прадшколле ў пасёлку „40-годдзя ПНР"

Гайнаўка развіваецца. Зараз яна налічвае звыш 23 тысяч чалавек. З кожным годам усё больш цесна робіцца ў школах і прадшколлях — што ні кажы, дзяцей прыбывае. Вось тут і праблема. Зараз вучні ходзяць у школу на другую, а то нават і на трэцюю змену.

Пачынаючы ад 1970 года, на працягу васемнаццаці гадоў у горадзе над Леснай Правай не пабудавалі ні адной школы! Усяго толькі была крыху разбудавана Пачатковая школа № 2 ды пабудаваны фізкультурны зал пры Пачатковай школе № 1.

Таму яшчэ ў бягучым годзе будзе распачата пабудова пачатковай школы на спулдзельчым жыллёвым пасёлку „Мазуры", а таксама разбудова Пачатковай школы № 3.

Перапоўнены таксама гайнаўскія прадшколлі. У навучальным годзе 1987-88 у прадшколлі не прынялі — з-за недахопу месца — каля 200 малалетак. Каб вырашыць гэтую праблему, палітычныя і адміністрацыйныя ўлады ды і самі жыхары Гайнаўкі намераны яшчэ сёлета распачаць пабудову прадшколля на пасёлку „40-годдзя Народнай Польшчы" па вуліцы Ліповай.

Варта дадаць, што новы будынак на некалькі дзесяткаў класных ізбаў вельмі неабходны гайнаўскаму Беларускаму агульнаадукацыйнаму ліцэю. Як вядома, знаходзіцца ён у старым, па-над меру выэксплуатаваным драўляным будынку.

У Гайнаўцы дакучліва адчуваецца брак якой-колечы пасляліцэальнай школы, у якой маглі б вучыцца далей выпускнікі двух тамашніх ліцэяў: № 9 і 10. (яц)

## АПЯКУН ПОМНІКАЎ СТАРАДАЎНАСЦІ

У Орлі жывуць пачуцці пашаны да помнікаў старадаўнасці, жыве высакародная сіла грамадскага дзеяння, каб захаваць для нашых нашчадкаў каштоўнасці нашай мінуўшчыны.

Нядаўна ў Орлі стварыўся Грамадскі камітэт аховы помнікаў старадаўнасці. У яго склад увайшло 11 асоб на чале з настаўнікам-пенсіянерам Мікалаем Ляшчынскім.

— На тэрыторыі Орлі і навакольных вёсак знаходзяцца цікавыя і важныя помнікі: сінагога і яўрэйскія могілкі з памятнымі намагільнымі каменнямі, шляхецкі невялікі асабняк, цэрквы ў Орлі і Шчытах, капліцы на вёсках і іншыя каштоўнасці, — гаворыць Мікалай Ляшчынскі. — Усё гэта патрабуе большай апекі і мы яе хочам гарантаваць. (мх)

## ВЫСТУПАЮЦЬ „ДУБІНЫ"

12 чэрвеня 1988 г. у Філармоніі ў Беластоку выступіць вядомы беларускі вакальна-інструментальны калектыў „Дубіны" пад мастацкім кіраўніцтвам Пятра Скепкі. „Дубіны" дадуць канцэрт а $14^{00}$ і $17^{00}$ гадз. Білеты прадаюцца ўжо ў ГП БГКТ у Беластоку, вул. Варшаўская 11. (мх)

## НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

Naczelnik Gminy w Dubiczach Cerkiewnych udziela odpowiedzi na notatkę prasową pt. „Biesprytulnaja" zamieszczoną w numerze Waszego Tygodnika z dnia 06 marca br., dotyczącą zapewnienia opieki dla Ob. Szeszko Niny mieszkanki wsi Grabowiec.

Zainteresowana jest inwalidką II-giej grupy — niedorozwój umysłowy znacznego stopnia. Z osób zobowiązanych do alimentacji posiada tylko brata, u którego jest formalnie zameldowana, lecz nie utrzymuje kontaktów z rodziną. Obywatelka stale zmienia miejsca swego pobytu.

Tut. Urząd Gminy — w m-cu maju 1987 r. skompletował akta sprawy dot. umieszczenia jej w domu pomocy społecznej na koszt Skarbu Państwa. Do chwili obecnej nie została tam przyjęta z powodu braku wolnych miejsc.

Udzielenie pomocy finansowej i rzeczowej jest bardzo utrudnione ze względu na prowadzony przez nią tryb życia.

Sytuacja Ob. Szeszko Niny jest również dobrze znana dla ZOZ Hajnówka Działu Służb Społecznych, ponieważ ww. przebywa na terenie m. Hajnówka bez stałego miejsca pobytu.

Końcowo nadmieniam, że umieszczenie w domu pomocy społecznej jest uzależnione od decyzji Domu Opieki Społecznej w Choroszczy.

**Naczelnik Gminy**
**inż. Anatol Pawłowski**

# ТАІСА КАЦЭЙКА, НАСТАЎНІЦА І ДЗЕЯЧ

(Працяг са стар. 1)



дзіца заваёўвае прызнанне і давер у людзей!

Такіх вучняў у Таісы Кацэйка многа. Але яна сама ніколі не спынялася на дасягнутым. Прыклад — яе грамадская актыўнасць. Дзеяч БГКТ, важатая калектыву мастацкай самадзейнасці, актывіст Таварыства сяброў дзіцяці, радная трох чарговых скліканняў ВРН... І гэта яшчэ не ўсё. Нас сёння перш за ўсё цікавіць, аднак, яе дзейнасць як радная. Найбольш часу раднага займае яго праца ў камісіі. Таіса Кацэйка прыналежыць зараз да Камісіі па распаўсюджванню культуры, фізкультуры і турыстыкі.

— Вось у развіцці турыстыкі, — гаворыць радная Таіса Кацэйка, — бачу я шанцы на актывізацыю многіх раёнаў паўднёвай і ўсходняй Беласточчыны...

— Ад Мельніка — аж па Дуброву, — дакінуў я.

— Так, цэлая гэтая прыгранічная паласа або „ўсходняя сцяна", як кажуць некаторыя, — прадоўжыла сваю думку пані Таіса. — Дзякуй Богу, не паспелі мы тут яшчэ цалкам знішчыць натуральную, дзявочую прыгажосць нашай прыроды. Паветра маем параўнальна чыстае, у многіх рэчках водзіцца розная рыба, лясы грыбныя, ягадамі пахучыя... Цэрквы, касцёлы, курганы, магілы герояў, помнікі партызанскай славы і пакутніцтва нашага народа... І месца, каб спыніцца, дастаткова. То ж у кожнай вёсцы стаяць пустыя хаты пад замком. Ёсць нявыкарыстаныя школьныя будынкі. Толькі няма арганізатара, каб усё гэта наладзіў.

Нераз даводзілася бачыць мне, як радная Таіса Кацэйка выступала ў час пленарных сесій ВРН, як смела звярталася з пытаннямі і патрабаваннямі да вяводы і да іншых прадстаўнікоў дзяржаўнай адміністрацыі, калі, для прыкладу, ішло змаганне за школу ў Орлі, за Беларускі музей у Гайнаўцы, за выкарыстанне багатых залежаў гліны ў арлянскім наваколлі для прадукцыі цэглы, за многія іншыя справы.

— Ці вам як раднай удалося па сваёй думцы аформіць да канца хаця б адну нейкую справу? — пацікавіўся я. Таіса Кацэйка паглядзела на мяне з добразычлівай усмешкай, ды адказала:

— У цяперашнім, такім заблытаным свеце, адзін чалавек, хаця б уладаў і божай сілай, нічога не зможа. Раднаму патрэбна падтрымка яго выбаршчыкаў, сіла калектыву і давер партыі, якую я прадстаўляю ў ВРН. Памятаеце, як у Маякоўскага? *„Адзінка — нуль!"* Сапраўды, аграмадны школьны гмах у Орлі стаіць ужо амаль гатовы, але гэта заслуга ўсіх арлянцаў! Зацверджаны план пабудовы асяродка здароўя ў Орлі, за які я змагалася, але Арлянская гміна — перадавая ва ўзносах у грамадскі фонд аховы здароўя. Дык мая роля зводзілася да прэзентацыі калектыўнай волі маіх выбаршчыкаў. А калі ўдалося мне аформіць у гміне справу нейкага аднаго, канкрэтнага чалавека, дык тады маё задавальненне яшчэ болей павялічвалася. Але пры гэтай нагодзе хачу адзначыць выключную добразычлівасць начальніка Арлянскай гміны **Мікалая Зіневіча** і старшыні гміннай рады нарадовай **Анатоля Мартыновіча.** Без іх падтрымкі я ніколі не змагла б нічога зрабіць.

— Ці можам яшчэ пагутарыць аб нашых нацыянальных праблемах? — звярнуўся я да Таісы Кацэйка, ведаючы, што яна ўваходзіла ў састаў камісіі па справах нацыянальных меншасцей, створанай у 1986 годзе з радных ВРН.

— А чаму ж не? Я ніколі і перад нікім не скрывала сваёй нацыянальнай прыналежнасці і сваёй гарачай любові да роднай беларускай культуры. Я ж сама столькі ўжо часу супрацоўнічаю з арлянскім самадзейным калектывам.

— Скажыце тады, ці, на вашу думку, ёсць патрэба, каб у рамках ВРН існаваў нейкі пастаянны орган, для прыкладу, пастаянная камісія, якая займалася б разглядам і вырашэннем своеасаблівых праблем беларусаў, пражываючых на Беласточчыне?

— Так, гэта патрэбна. Толькі вопыт працы ў ВРН мне падказвае, каб загадзя дакладна акрэсліць правамоцтвы такога органа і рамкі яго дзейнасці. А спраў і заняткаў будзе яму ўдосталь. Для прыкладу, неадкладна трэба ўладкаваць рэпертуар ды назву калектыву **„Курпе зелёнэ"**, хай ён сапраўды прадстаўляе Беласточчыну такой, якая яна ёсць, а не такой, якой некаторым хацелася б, каб была. Упарадкаванне назваў — геаграфічных, гістарычных і адміністрацыйных — гэта таксама магла б вырашыць такая камісія. Будзе ў Беластоку універсітэт. Ці не месца ў ім для беларускай філалогіі? Стварэцца міжнародны цэнтр культуры эсперанта, бо тут нарадзіўся Людвік Заменгоф. І вельмі ж добра. Але дзе, як не ў Беластоку, месца для нейкага цэнтра беларускай культуры? Столькі ў нас было КПЗБоўцаў, грамадоўцаў, партызан, выдатных дзеячоў! Чаму ж іх імёны не ўвекавечыць у назвах вуліц, школ, дамоў культуры, на помніках? А хто мае дапамагаць беларускаму мастацкаму руху? Хто абавязаны паказаць яго ўсёй Польшчы і свету? Бачыце, праблем хаця адбаўляй...

— Дзякую за сустрэчу.

Гутарыў і здымаў
**В. Рудчык**



*Шпаркім тэмпам будуецца школа ў Орлі.*

# У 43-юю ГАДАВІНУ ПЕРАМОГІ

Урачыста адзначалася на Беласточчыне 43-ая гадавіна перамогі над нямецкім фашызмам. За вызваленне былога Беластоцкага ваяводства аддала жыццё 36 тысяч савецкіх салдат.

Святочная атмасфера панавала і ў тых мясцовасцях, дзе жывуць беларусы. Яны актыўна ўключаліся ў абарону маладой народнай улады.

У былым Бельскім павеце да 1952 года загінула 52 міліцыянеры, працаўнікі службы бяспекі і ОРМО. Для ўшанавання іх памяці 6 мая быў адкрыты абеліск у Бельску. У гэтай урачыстасці ўдзельнічаў першы сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП Уладзімір Каладзеюк, прэзас ВК ЗСЛ Рышард Нівінскі, старшыня ВК СД Яўген Кулакоўскі і ваявода Мар'ян Гала.

З дакладам выступіў начальнік ВУУС палкоўнік Сільвестр Рагалеўскі.

*

8 мая ў Мілейчыцах адбыўся традыцыйны паход з аркестрам на могілкі савецкіх салдат. Там праходзіў антываенны мітынг. Са змястоўным дакладам выступіў першы сакратар гміннага камітэта ПАРП Яўген Матуевіч, а пасля прадстаўнік Савецкай Арміі падпалкоўнік Вячаслаў Сало. Ён наблізіў прысутным цяжкі перыяд змагання савецкага народа і яго арміі з нямецкай навалай.

Прадстаўнік маладзёжнай арганізацыі, настаўніца Гражына Мушкатэль, выступіла з заклікам міру. А затым доўга працягвалася ўскладанне вянкоў і кветак пад помнікам.

Каля пачатковай школы адбылася мастацкая частка. Выступілі: духавы аркестр Аб'яднаных механічных школ з Лап, хор БГКТ з Орлі і музычна-інструментальная школьная група з Пашкоўшчыны. Падвечар распачаліся народныя музыкі.

*

9 мая па вуліцах Беластока ў напрамку помніка Героям Беласточчыны прайшла школьная моладзь з аркестрамі. Там адбылася мірная маніфестацыя насельніцтва горада. Удзельнічала ў ёй і трохасабовая дэлегацыя з Гродна: старшыня абласной рады ветэранаў вайны і працы Міхаіл Сасноўскі, старшыня абласной рады дэлегатаў Ленінскага раёна горада Гродна Яўген Чабураеў і старшыня рады ветэранаў вайны і працы фабрыкі нітак Іван Глухаў.

Пасля гімна выступіў з прамовай прадстаўнік ЗБоВіДу Кшыштоф Вуйтовіч. Вянкі і кветкі складалі прадстаўнікі ваяводскіх партыйных і адміністрацыйных улад на чале з першым сакратаром ВК ПАРП Уладзімірам Каладзеюком.

*

9 мая на Доме настаўніка ў Бельску была адкрыта памятная табліца загінуўшым у гадах 1939-1945 настаўнікам. У гэтым перыядзе асабліва трагічны быў дзень 15 ліпеня 1943 года, калі немцы ў Пліцкім лесе расстралялі 49 чалавек. (мх)

*ВІКТАР ШВЕД*

## МАЯ МАЛЕНЬКАЯ АЙЧЫНА

Мая маленькая айчына,
Мой беластоцкі родны край.
Тут басанож стаптаў сцяжыны,
Што праляглі праз поле, гай.

Цаніць тут навучыўся працу,
Мову айчынную, народ.
І не магу цябе я страціць,
Ты даражэйшая штогод.

Далёка ад цябе — сумую.
Убачу — дык шчаслівы зноў.
У сэрцы заўсягды нашу я
Крыніцу мар маіх і сноў.

Мая маленькая айчына,
Я твой адданы верны сын.
Цябе ніколі не пакіну,
Мая калыска, мой спачын.



## ВЯРНУСЯ

Даўно я выйшаў з вёскі Мора,
У маладым яшчэ жыцці.
Іду я пастаянна ў горад
І не магу ніяк дайсці.

І з гарадской бетоннай клеткі,
На яве, а таксама ў снах,
Сэрца імкнецца на палеткі,
Туды, дзе мой пачаўся шлях.

Родны куток маёй айчыны,
Мой беларусе — кроўны брат!
Я вас ніколі не пакіну,
Вярнуся я да вас назад.

## ПРЫМАКІ

Было ў мінулым заўжды так:
Найбольшая бяда і сварка
Там панавала, дзе прымак
Йшоў на чужую гаспадарку.

Ды маем век цяпер такі,
Што трацім у сваё надзею,
І ціснемся ўсе ў прымакі
Мы да суседзяў-дабрадзеяў.

І надта згодны мы з усім,
І чуемся ўсе быццам дома,
І забываем нат аб тым,
Адкуль выводзімся і хто мы.

Калісь спытаюць: дзе ж такі,
Што беларусам жыў тут недзе?
Адказ пачуюць: прымакі
Усе цяпер яны ў суседзяў.

## РАСКАЖЫ НАМ, ЛЕС ДРЫМУЧЫ

Раскажы нам, лес дрымучы,
Аб мінуўшчыне сівой.
Пазнаваць нас мала вучаць
Шлях гісторыі сваёй.

Ведаем аб гэтым мала,
Як пад кронамі дубоў
Вояў некалі Ягайла
На крыжакаў грозных вёў.

Лес дрымучы, раскажы нам,
Шмат цікавячых нас спраў,
Як першадрукар Скарына
З Вільні ў Кракаў вандраваў.

Раскажы нам, лес зялёны,
Як калісьці тут Кастусь,
Грозны камісар чырвоны,
Ваяваў за Беларусь.

Раскажы нам, лес бывалы,
Як падчас ваенных год
З фашыстоўскаю навалай
Тут змагаўся наш народ.

Стары лесе, раскажы нам,
Аб мінулым дарагім.
Мы з гісторыі Айчыны
Абакрадзены зусім.

**Фота В. Сумінскага**

*ЯНІНА ШОСТАК*

* * *

дзе ж мы свежыя
з малаком на вуснах
дзе ж дні пахучыя марамі
калі з нас эмануе слодыч веры
у ідэю кахання
дзе ж славы жэст...
час — праміванне
свет — праміванне
вечнасць дзе ж...



* * *

так нядаўна
пяклі крапівой словы твае
прымушалі
загадвалі ісці на розуму дно
нахабныя ў сваім пачатку
чуллівыя ля варот немачы
шчаслівай
не змагалася я
навошта ж ёсць...
Вера Надзея Любоў

**(Працяг са стар. 12)**

## НАШ ПАРНАС

дзе радасці й надзеі пахавалі
(можа, нас чуе Юрка Г.? можа,
нас дзядзька Квас пахваліць?)

XIII

Гары не зварухнуць —
яе ўспірае
карэспандэнтаў рой ўжо
не малы,
пішуць на розныя лады. І што
было б
без гэтай мітусні?

XIV

І так прайшло гадоў нямала
На „Ніве“ ўсё штосьць паспявала,
калі быў ураджай, калі засуха...
Але не варта падаць духам:
трыццаць гадоў ацэньваць
можна так і сяк.
Мо не загінем шчэ, я бачу,
падрастае маладняк.

XV

Калі хто тут пакрыўджаны —
каму замнога, а каму замала,
каму мо важнаму нат месца тут
не стала
(ах! паперы брак і часу
не хапала —
адзін пра ўсё не праспяваеш).
Прабач тады, стваральнік мілы
мой, прабач —
З пашанаю —

**А. Анішэўская,**
**чытач.**

нядзелю 8 чэрвеня ў Беластоку адбыўся арганізацыйны з'езд Беларускага літаратурнага аб'яднання (...). З'езд паклікаў праўленне і прыняў статут аб'яднання. Пастаноўлена, што аб'яднанне будзе гуртавацца пры рэдакцыі „Нівы“ і будзе выдаваць літаратурную старонку“.

Вось так паявіліся фармальныя рамы таго беларускага літаратурнага руху, які крыху пазней прыняў назву „Белавежа“ і якому ў гэтым годзе спаўняецца трыццаць гадоў.

*

На працягу гэтых трох мінулых дзесяцігоддзяў гістарычна-культурную вартасць „Белавежы“ стварала некалькі творчых пакаленняў. З штомесячных літаратурных старонак у „Ніве“, перыядычна выдаваных альманахаў, а таксама літаратурных матэрыялаў, змешчаных у „Беларускіх календарах“, відаць, як змяняўся асабовы склад аб'яднання. Інакш і быць не магло. Гэта з'ява нармальная, як тое, што з першапачаткоўцаў зараз на літаратурным палетку актыўна працуе не больш пяці-сямі чалавек. Іншыя — адметныя постаці з народа, адвечныя шукальнікі дабра і праўды — на жаль, выкрышыліся. Магчыма таму, што творчая праца, як ніякая другая, калі яна сапраўды творчая, дамагаецца поўнай інтэлектуальнай, псіхічнай і эмацыянальнай аддачы. Да таго трэба мець шырокі дыяпазон самых разнастайных ведаў і незвычайную адвагу, і веру, і горы цярплівасці, і непагасную энергію, і — божую памазанасць. І вялікую сілу волі, каб усе гэтыя вартасці яшчэ шліфаваць няспыннай адукацыяй ды самаадукацыяй. Таленты ад прыроды, чыстыя самародкі гараць у свеце мастацтва, пэўна, ярчэй. Але і карацей гараць. Як паказвае гісторыя хоць бы еўрапейскіх літаратур прадаўжэнню творчай патэнцыі выразна спрыяе іменна высокая кваліфікаванасць і прафесіяналізм. Вось таму і ў нас на чало літаратурнага руху хутка выйшлі такія здольныя людзі, як Надзея Артымовіч, Юрка Баена, Кастусь Бандарук, Ірына Баравік, Алесь Барскі, Яша Бурш (Янка Анісэровіч), Мікалай Гайдук, Юрка Геніюш, С. Заставін (Лявон Майсеюк), Юрка Зубрыцкі (Георгі Валкавыцкі), Уладзімір Паўлючук, Зося Сачко, Вінцук Склубоўскі, Ян Чыквін, Дзмітры Шатыловіч, Міхась Шаховіч, Віктар Швед, Сакрат Яновіч. Большасць з іх гэта ўжо аўтары шматлікіх і важкіх зборнікаў паэзіі, апавяданняў, сцэнічных твораў, тамоў прозы, мастацкага перакладу, а таксама і навуковых доследаў. Тут ужо можна гаварыць пра паасобныя, сфармаваныя творчыя індывідуальнасці, пра пісьменніцкі стыль, пра ідэйна-эстэтычныя канцэпцыі і г.д.

„Белавежа“ ўзнікла ў польскім так званым „разлікавым“ перыядзе, які пачаўся ў краіне 1956 годам. Але творчасць беларускіх літаратараў не была „разрахунковай“, не супадала з той тагачаснай асноўнай тэндэнцыяй польскай літаратуры. „Белавежцы“ ад пачатку стварылі свой мікрасвет і свае далягляды, адным словам, сваю ўласную мастацкую рэчаіснасць, якая гэтай багатай непаўторнасцю якраз і прыцягвала аматараў ды знатакоў прыгожага пісьменства. У гэтых ужо звыш пяцідзесяці апублікаваных аўтарскіх кніжках, разнастайных па жанру і тэматыцы, па-свойму і вельмі цікава адлюстроўваюцца ўсе важнейшыя грамадскія, палітычныя, ідэалагічныя, рэлігійныя ды іншыя праблемы, якія нуртавалі і нуртуюць беларускае асяроддзе ў Польшчы.

На пачатку, калі наш літаратурны рух толькі што ўваходзіў у арганізацыйную пойму, планавалася, як памятаем, прыняць статут аб'яднання. Дрэнна, а мо і не дрэнна сталася для дабра агульнай справы, але „белавежцы“ маглі развівацца дагэ-

**(Працяг на стар. 6)**

*МІХАСЬ ШАХОВІЧ*

## ПАДАРОЖЖА



На ганку дня
заранка чырвонее.
Конь сівагрывы
ў ранішняй імгле
наровіцца
ў мунштуках,
з-пад капыт
іскры,
вона злее...
У плыні часу
не ўстаяць.
Паедзем, мілая,
паедзем
проста з усходу
захад сустракаць.
О,
чалавечы лёсе —
вечны эмігранце,
ростань
і раздарожжы.
Паедзем, мілая,
паедзем ў падарожжа...
Хвіліны ўжо
на возчыка крычаць,
час
скрыпіць ад стомы.
Едзем.
Надзей раніца
у душы звоніць.
Жаўрук —
сонца пасыльны,
небам прадвесня
з весткай гоніць:
— Жыццё
расплюшчвае вочы!
Новы парадак!
... Парадак
штодзень новы крочыць,
штодзень
сцірае непаладкі.
І ў непарадку
ёсць парадкі...
Едзем.
Хвіліны пруць
так ашалела.
Учарашняе
у сэрцы млее,
успамінам скарупее,
а было ж гэта
надзеяй.
Жыццё не любіць
поўнага даверу.
Едзем.
А дзень сівы
і барадаты,
абцёршы слёзы
сонца рукавом,
з поўдня махае.
Не было сустрэчы,
а ўжо расстанне.
Выходзім з хаты,
каб
ісці дахаты.
Вечна журбу
цягнем на повадзе,
пяшком,
і злосць да брата.
Едзем, мілая.
Дарогай —
пожня мараў.
А ў душы сенажаць
усё яшчэ трывае...
Дом
недзе расплыўся,
сын
не сустракае...
А было ўсяго тут,
як добрым ураджаем
. . . . . . . . . .
Нарадзіўся раз —
вечна паміраеш.
. . . . . . . . . .
Вунь,
на схіле дня,
восень захліпала.
Едзем,
усё едзем,
едзем аж да стомы.
І калі б здавалась...
Зноў
няма нас дома.
А на ганку дня
Заранка чырванее,
дзіка
рвуцца коні...
А мы не паспелі.

*УЛАДЗІМІР ГАЙДУК*

## КЛАСІК

Адзін раз, як кажуць праныры, заўчасна
Здавалася Стасю, што ён — ужо класік.
Перад стадам авечак чытаў свае вершы,
Падпернуўся кіем, лоб угору задзершы.
Авечкі заўсёды прывыклі без слова
Слухаць загады Стаські-аканома
І толькі катора прытупне нагою
На знак павзжання; вядома, вядома...
А ён гэтым часам лунаў у прасторы,
Праліўшы ў экстазе натхнёныя словы;
— Я ваш правадыр, драбяза вы авеча!..
Баран тут знячэўку разбегся, як трэсне
У Стаськаў азадак, бы ў пень той альховы.

Тварэнне заўсёды прыходзіцца з болем.



Мал. Міколы Давідзюка.

*ВІКТАР СТАХВЮК*

* * *

мне
б
апошняй
птушкай
у ключы
паляцець у вырай
ад
учарашніх ідалаў
партрэтных позіркаў
ад
мазолістых каленяў
зашнураваных вуснаў
замарожаных сэрцаў
ад
распяццяў
войнаў
і пагроз
экалёбыля
чорных снегападаў
узлятаць
у млечны
шлях
дзіцячых
сноў
ачалавечыцца

* * *

прачнулася гоманам
у бярозавай прасторы
лаўрэнціем
спалоханае
рэха
узляцела
на крыллях зязюлі
у вусны першага слова
абмыла
снегам вішнёвага саду
загадзя
паморшчаны твар
чалавек
занава
стаў
расці
выпрамляць
у дугу
згорбленыя
плечы
каб
толькі не аглянуцца
выпугнуць
з венаў жывёлахатнюю пакорнасць
а то ізноў
асляпне
рэха
пакоціцца
ў чорны
замак
цішыні
бы блукаючыся там
вышываць
узор
жыцця
абыякавы
як ты сам
патрэпаны
як падлеткава вопратка

*САКРАТ ЯНОВІЧ*

## ЧОРНАЯ ЛЁЛЯ



У мяне быў гешэфт з Зюнікам. Ён, вярнуўшыся з Лондана, пахваліўся моцнаю валютаю. За яе мы дасталі ў камбінатараў усё, што нам трэба было, каб звітна круціць справаю. Я любіў даходную рызыку. Адчынілі слёсарную майстэрню.

Галава Зюніка варыла камалей. Не пра ўсё мне быў сэнс казаць яму. Ён, дарэчы, і не дапытваўся, калі я не закідаў слова наконт грошай. А выпускаць з рук вялікія сумы быў у нас яшчэ час.

— Слухай, ты здаровы? — меў Зюнік такую звычку пачынаць гутарку са мною, што выклікала ў мяне ўздрыг.

— Здароў. Чаму пытаеш?

— Будзе здароўе, усё будзе, — паўтараў ён. Я не адразу скеміў, што набраўся Зюнік гэтага, пабыўшы ў чужых.

Надта ж паакуратнеў. Да выезду туды ён балаганіў, як і ўсе. Цяпер жа зрабіўся непадобным на нашага чалавека, не напіваўся і не брыдкасловіў. Гэта трохі перашкаджала ў здзелках, хоць магчыма, што нават і не... Спекулянцкая драбнота, якой нельга ні ў чым уступаць, вынюхае, што за доўгім языком кароткі долар.

Зюнік падабаўся бабам. Яны, праўда, любяць парагатаць пры жартаўніку ды фокусніку, але па-шчырасці не шануюць такога мужчыну. Іхняя рацыя, відаць, у тым, што весялун не так заядла зарабляе грошы... Да Зюніка прысмакталася Чорная Лёля. Як я па часе зразумеў, гэта была норма: спакайнοту чорт падчэпіць!

Не мая справа, што Чорная Лёля вычаўпала з Зюнікам. Зрэшты, а што я мог?! Ён перастаў з'яўляцца. Калі я, нарэшце, пайшоў да яго на кватэру, даведаўся, што ён некуды выехаў. І не адзін, — дадала паспалітага выгляду гаспадыня. Па тым, як яна замаўчала, быццам бароняччы нешта цуднае ёй, мне ў той самы момант падумалася, што пекната Чорнай Лёлі даканае цэлы гэты наш гешэфт. Без Зюніка я нічога не варты.

Я яго болей ужо не бачыў.

Неяк пасля знаёмы камбінатар перагаворваў, што Зюнік цягаўся з Чорнай Лёляю па ўсякіх цёплых краінах, аж завалокся зноў у Англію, дзе яна яго і пакінула. Сышлася з другім, і той павёз яе ў Амерыку.

Я доўга яшчэ спадзяваўся, што Зюнік прыедзе назад альбо хаця прышле мне ўспаможэнне.

**Фота Лёніка**

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## ВІНШУЕМ „БЕЛАВЕЖУ"

Беларускае літаратурнае аб'яднанне „Белавежа", якое існуе пры Беларускім грамадска-культурным таварыстве, гэтымі днямі святкуе сваё 30-годдзе.

Нашым чытачам добра знаёмы прозвішчы Віктара Шведа, Алеся Барскага, Сакрата Яновіча, Янкі Чыквіна, Міколы Гайдука, Леапольда Танкевіча, Васіля Петручука і многіх іншых. Іх кніжкі чыталі многія з вас, у некаторых школах беларускія пісьменнікі, пражываючыя ў Польшчы, былі частымі госцьмі. А ўрыўкі іх прозы і вершы вучні рыхтавалі на дэкламатарскія конкурсы па творчасці „белавежцаў". Многія крылатыя словы нашых пісьменнікаў аб любві да роднага, да нашай мовы, да бацькаўшчыны ўпрыгожваюць школьныя беларускія кабінеты.

Сёння „белавежцы" святкуюць трыццацігоддзе супольнай працы ў творчай беларускай сям'і. Адзначаюць гэтае свята новымі цікавымі вершамі, апавяданнямі, новымі кніжкамі — новымі мастацкімі дасягненнямі.

Жадаем ім з нагоды юбілею далейшага творчага натхнення і прыемнай працы, а нам усім — як найбольш добрых і цікавых кніжак.

Сакрат Яновіч

## ГАРЛАЧ

Пеўня празвалі Гарлач. Ён спакойны, калі пахмурна або дождж. Тады Гарлач дрэмле на дровах пад страхою альбо грабецца ў горбе гною за падваротняю.

Але сёння — сонца. Яно ўжо выкацілася над вербамі, што ля старога млына, і пячэ. А далёка, па гасцінцы, пастухі гоняць кароў.

Пахне расою.

Гарлач спявае і дзюбае сонных курэй-жонак, круціць моцным хвастом ды разглядаецца. Прыпыніўся ён насупраць буды сабакі Пудліка і, упёршыся кіпцюрамі ў пясок, выдаў сіплы гук: куры ачнуліся. Пудлік настабурчыў вушы і, на ўсякі выпадак, высадзіўшы адну лапу, прыязна пазяхнуў. Гарлач пабуслінаму насякерыўся на яго мызу, падазраючы сабаку ў нядобрых намерах. Пастаяўшы так у няпэўнасці, па-хітрунску кінуўся да міскі Пудліка, аблепленай засохлымі недаедкамі, і давай склікаць курэй.

Пудлік, гледзячы, як Гарлач бярэцца за ягоную міску, не сцярпеў, выскаліў зубы і брахнуў. Той вырачыўся на сабаку ды дзюбнуў у нос. Пудлік ад такой абразы ўскіпеў ды рвануўся ў бойку, намагаючыся сха-

(Працяг на стар. 10)



*Сцэнка з п'есы Юркі Геніуша „Вываражыла". З гэтай п'есай выступілі ў сёлетнім конкурсе школьных тэатральных калектываў вучні са школы ў Орлі.* *Фота Я. Чэрнякевіч.*



*Удзельніцы сёлетняга дэкламатарскага конкурсу для школьнікаў, які быў прысвечаны 30-годдзю літаратурнага аб'яднання „Белавежа". Трэцякласніца Кася Зінэвіч і другакласніца Агнешка Саўчук. У іх рэпертуары былі вершы Віктара Шведа і казка Мікалая Гайдука.* *Фота Я. Чэрнякевіч.*

Віктар Швед

### ШТО ВАЖНЕЙШАЕ НА СВЕЦЕ

Задумоўваюцца дзеці
У вясковай хаце,
Што важнейшае на свеце:
Розум ці багацце?

— Хіба розум, — кажа Коля, —
Ён самы харошы,
Бо мы розуму ніколі
Не купім за грошы.

### СІЛА Ў ВЕДАХ

Дужаліся дзеці
Летам на падворку.
— Я дужэйшы ў свеце, —
Закрычаў Ягорка.

З панталыку збіла
Пагаворка дзеда:
— Не ў мускулах сіла,
Хлопцы, толькі ў ведах.

### СМЕХ

Смех — не грэх, — гавораць
людзі, —
Смех — здароўе, хай так будзе.
Лепш смяяцца, чымся плакаць.
Смех здараецца ўсялякі:
Ціхі, звонкі, істэрычны,
Шчыры, шумны, іранічны.
Ды яшчэ ў нас смеху многа
Недарэчнага, пустога.
Без усякае прычыны
Выбухае ён няспынна.
Смехам тым уся дурнота
Карыстаецца з ахвотай.

### ПРАКТЫЧНЫ ТАТА

Вялікае ў нас свята —
Прынёс падарак тата,
Купіў на імяніны
Электрабрытву сыну.

— Навошта брытва, дзетка,
Яшчэ ж ты малалетка?
— Пакуль мой тварык гладкі
Дык брыцца будзе татка.

### АРХІПКА ПІЛУЕ СКРЫПКІ

Спытаў цікаўны селянін
Суседа, што араў у полі:
— Скажы, як вучыцца твой сын
У гарадской музычнай школе?

— Хачу сказаць табе, браток,
Так працавіты мой Архіпка,
Што не мінуў яшчэ й гадок,
Як трэцюю пілуе скрыпку.

### ЗАЛАТАЯ ТРУБА

— Дзякую табе, дзядуля мой,
Запаветную ты споўніў мару.
Не магу расстацца я з трубой,
Гэта вельмі дарагі падарак.

Дзьму ў трубу,
гуду як авадзень,
Патрубіць заўсёды я ахвочы.
Мама плаціць —
каб не граў я ўдзень,
Тата — каб я не трубіў уночы.

### МАЎЧАННЕ — ЗОЛАТА

— Далі мне двойку, —
скардзіцца Рыгорка,
За гэта, што быў маўчуном
ля дошкі.
Маўчанне — золата, —
сцвярджае пагаворка.
Ды гэта ж не згаджаецца
ні трошкі.

Не вытрымаў
заўжды спакойны тата:
— Тут пагаворка
сэнс вялікі мае.
Балбочаш без патрэбы
як наняты,
Маўчыш тады,
калі цябе пытаюць.

Дзесяткі тры гадоў назад
сабралася хлапцоў нашых няшмат:
Ян, Яша, Віктар і Сакрат
(тады шчэ не было дзяўчат).
Упраглі ў воз свой Юрку, што з Зубровії
(чакалі іх нялёгкія умовы),
і пачалі будову рыштавання
з мэтай — гару ўзвесці,
з лагодным скатам, каб не цяжка ўзлезці
было па ім на горную вяршыню.
Вядома, трэба штосьці рабіць,
дык не адным жа хлебам...
(ну, прыказкі канчаць не трэба).
І вось стаіць Гара! — Мо шчэ і не Парнас,
Але даступная для нас.

I

З гары відаць, як Швед наш з Мора
пярэдніх ўжо апераджае,
пра бацькаўскі парог не забывае
і аб мінулым плача ў сваіх творах.
Прайшло шмат зімаў і летаў,
ажно паўсталі „Трыялеты".
Ён „разок толькі гляну ў вочы,
акунуўся ў іх, як у моры —
і спакою няма ўдзень і ўночы..."
і... падаўся ў Маскву (з таго гора).
Ён паехаў за справай нібыта,
а прывёз адтуль „Маскоўскі спытак"
Не ведаю, ці ёсць яму хто роўны,
Каб так айчынай даражыў,
ад сэрца ўзятых столькі думак
і песень столькі ёй ужо падарыў.
Песні яго спяваюць ў родных вёсках,
у іх гучыць любімы ім напеў.
Плывуць ў горад адгалоскі:
свой талент ад прыроды займеў.
Віктар спявае дзецям калыханкі,
ён і наогул добры чалавек,
Не раз аж дзіў мяне агорне,
што шчэ такі жыве ў наш век.

II

Рассеўся на самай вяршыні
спадар з Бандароў, быццам пан,
многа слоў прашаптаў ўжо чуллівых,
дум крылатых сабраў поўны збан.
Ручаём шырокім выплывае
боль, каханне, зялёны пейзаж.
Як „слуп высакавольтны",
смерцю пагражае! —
то ізноў лагодны:
мадонны ліпнёвыя,
блакітныя, ружовыя малюе —
і ўжо гатовы вернісаж!
Парнас яму даўно знаёмы:
ён ўжо ў калысцы быў паэт,
калі па пожні поўз калючай
да ног дзявочых tete-a-tete.
Пегаз яго на крылах носіць,
сёння ён тут, а заўтра ў ЗША!
То на Смычковай студэнтаў косіць,
то ўжо над Нарвай жыта звозіць,
дзе з кім начуе? — (ціха, ша!).
Гады бягуць, паэт ўсё дынамічны,
дрыжыць ў яго шчэ пульс лірычны.
Фальклору нашага сабраў дзве скрыні
і час ад часу штосьці адчыніць,
каб нам прыпомніць, як калісь было
і ўжо з вадою адплыло.
Прысеў сабе ён на мяжы,
глядзіць уважна ва ўсе бокі,
дакладна хоча прасачыць
беларусоў камплекс глыбокі.
Няхай нікому не здаецца,
што ўжо ўсё выстраляў паэт —
чым ён яшчэ нам адазвецца,
які падкажа нам сюжэт?
Адно хацелася б, каб слава
не закружыла галаву
(няхай тут крытык адазвецца —
хваліць я болей не магу).

III

Усё шліфаваў чужыя думкі —
сваіх галубіць часу не хапала.
І так прайшло гадоў нямала,
ажно сказалі сябру Юрку:
даволі вам цягнуць ўжо гэты тарантас,
пакоціцца мо неяк і без вас!..
Займіцеся складаннем ўласных твораў!
Вы на Парнасе не каб лішні
(там ўсё яшчэ не надта цесна),
для вас затрыманае месца.
А ў Белавежы цвітуць ужо вішні!
Спяшайцеся, пакуль не позна.
Тытул рэдактара пры вас астаўся,
ды каб вас Луба не баяўся,
у „Ніву" заглядайце не часцей,
чым раз у тыдзень
(пакуль ахвота не адыдзе),
хаця я думаю, бы і ваўка ў лес,
цягнуць туды вас будзе доўгі час.

IV

Даўно з літаратурай за „пан-брат"
Жыве Сакрат.
Як тут не глянь, кажу сур'ёзна,
„за сабой дзве душы валаку".
Задуменна ў „Святую студню" глядзіць,
Непакой у душы пасяліўся, сядзіць,
чорнай кошкай за грудзі дзярэ:
„Нікому не патрэбны ў горадзе паэт".
Душа маленькай птушкай уцякае ў вёску,
там „у вёсцы восень ставіць кросны"
і так цудоўна, так дзівосна —
тут акадэмія і грошы, а ў вёсцы
па вечарах прыходзяць госці.
І так жыве, разбіты і лірычны,
ўжо на гары Парнас аставіў
свой аўтаграфічны знак.
Хто гэта? Не скажу і так.
Можа, ўгадае хто? — пабачу,
а можа хто і насабачыць!
Як гэта смеў хтось Веліч зачапіць?!
Калі так думаеш, паэт, прабач!
(шчыра гучыць?)
Я больш ужо ніколі... даю слова,
мабыць, асмеліла мяне аднова.

VI

Падняўся на узгорак наш Міхась
ужо высока! О, зноў чамусьці ападае...




Яму адчынены ўсе дзверы
не толькі ў нас!
Нават на Оксфард-стрыт
ён і пісьменнік і „піт".
У лонданскай Скарыніцы
варочае, бы ў місцы кашу, —
шукае там гісторыю нашу.
І што знаходзіць?
Вось хаця б пра тое,
як з Завосся Яновічаў
Міцкевічы прагналі.
Апошні наезд ў Літве склікалі,
каб адабраць, што толькі ім ўдалося.
Аднак таленту Яновічам
адняць не давялося!
Яны — Адама, мы — Сакрата маем!
Ён след ў літаратуры пакідае.
Літаратурныя „Загоны" заараў
і Скроўбу выцягнуў з-за свету.
„Сакрацікамі" густа „Ніву" засявае,
„Białoruś, Białoruś..." — сумна заспявае
(пакуль не чутна хору галасоў!).

V

„Пастой, пастой, — крычыць паэт: — Іду,
„На жаль, я чалавек —
больш не магу!" — крычыць.
І тут валошку сінюю
да сэрца прытуляе.
„Кантрасты" ў жыцці, —
ён кажа, — неабходныя,
няхай сядае кожны там,
дзе месца больш выгоднае.

VII

О, бачу зноў двух Гайдукоў!
Адзін, вяльможны пан, гісторыкам завецца,
другі — ў зямлі грабецца.
Вось першы нам гісторыю нашу набліжае
з Кейстутаўнай Рынгалай нас знаёміць,
Полацкую княгіню Ефрасінню паважае,
словам, дзверы у родную гісторыю адчыняе.
А там! О, што за блытаніна, што за супярэчнасць!
Дзе праўда? Колькі там хлусні?
З гісторыкам, адзіным, зрэшты,
весці спрэчак, ніхто пакуль што не бярэцца.
А шкада!
Але, калі хто адазвецца?
Ну і што!
Хто ён такі?
Адзін — „не воін ў полі".
За нас чужыя вырашалі, такая наша доля.
Пара ўжо нам з гісторыкам Міколам развітацца,
шануйма яго час, ён жа у зоркі заглядае,
з егіпецкага сонніка чытае —
хто ведае, што там напісана пра нас.

VIII

А вось другі Гайдук.
Ужо з бараною ў полі
і з жаўруком спявае песні нашай долі.
З „Ракіты" кошык выплятае,
туды ўсе думкі-мары укладае.
І так жыццё яго праходзіць
з прыродай роднаю ў згодзе.
Жыве на Беласточчыне такі паэт Валодзя!

IX

Ціхком, без „шуму гарадскога",
ўзабраўся на гару Васіль.
Не ёсць ён паслядоўнікам нікога,
ён свае творы у сабе насіў.
Здаўна, з гаротнага дзяцінства
(цяжка аб гэтым ўспамінаць).
Нельга сказаць, што ён лірычны у тым, што піша...
Аднак, хто запярэчыць мне? —
Ён аўтэнтычны у калючай пожні...
Не! Не мне ацэнку „Пожні" выстаўляць.

X

Вось тут непадалёку сядзяць
тыя, што часам хваляць чыесь творы:
„Зялёную паэму", Надзю ці Аўрору.
Сам пан Жамойцін час ад часу адазвецца,
загляне ў нейкі твор, ацэнку дасць
і зноў маўчыць гадамі,
за дробязі ён не бярэцца.
Відаць, і без пасады крытыка яму вядзецца.
А як ўспрыняць, калі наш паважаны
доктар Туронак прыплюшчыць іранічна вока
і ледзь губамі варухне: „Даволі твор глыбокі,
ну, нічога незвычайнага няма..."
І зноў заляжа цішыня.
(Больш крытыкаў у нас няма!).

XI

Гара ўжо заселена багата!
Ўзяліся тут адкульсь дзяўчаты:
Ірына, Зося, Міра, Ада
і ўсе чарапяцца наверх,
дзе Надзя ўжо спявае:
„ой, ляцелі гусі"
з Надзінага луга,
да сталіцы даляцелі,
потым селі.
Сядзелі-сядзелі,
злоўленага промня сонца
ўтрымаць не змаглі
ці не хацелі?
Вярнуліся на Падляшша
і „Роздумам" глыбокім аддаліся.
Ой, Надзя, Надзя, не маўчы,
зноў ты адазвіся!

XII

Ах! Колькі ёсць яшчэ такіх,
што разбудзіліся ў сваім жаданні,
каб тое, што ў душы ляжыць
і што схаванае было гадамі,
назваці па-свайму: хай ляціць
на наш парнасік скромны, ўласны!
Імёнаў іх мне не злічыць,
пра іх гісторыя змаўчыць —
ды яны пішуць не для славы.
А колькі з іх ужо пагасла...
Усе, што зачапіліся за плынь,
каго нясе яна, абняўшы сваёй сілай,
могуць сказаць: мы ўжо гісторыю стварылі,
ёсць ужо ў нас свае магілы,

**(Працяг на стар. 5)**